

# ПЕСНЯ АБ ВЯСНЕ

Я. ЖУРБА

Не трысцё шапоча казку,
Не галлём шуміць сасна:
З цёплай сонечнаю ласкай
Зноў ідзе да нас вясна.

Зноў яна к нам выплывае
На расквечаным чаўне,
Поле сонцам аздабляе...
Рады шчыра мы вясне.

Пойдзем, хлопцы і дзяўчаты,
Шумнай дружнай грамадой,
Пойдзем з песняй мы за хаты,
Ў луг зялёны над ракой.

Там, ля рэчкі ля шумлівай,
Мы вясёлаю сям'ёй,
Пад напевы хваль бурлівых,
Карагод наладзім свой.

Там вясёла заспяваем
Пра шчаслівае жыццё:
У Совецкім нашым краі,
Быццам кветкі мы цвіцём.

Песняй Сталіна уславім
Мы за светлыя гады:
Гэта ён—наш друг—украсіў
Шчасцем век наш малады!

1938 г.

# ПАД СОНЦАМ КРЭМЛЯ

ВАСІЛЬ ГАЎРУК

**Цвіце, расцвітае**
**Радзіма мая**
**Пад сонцам агністым—**
**Пад сонцам Крэмля.**

**Як добра змагацца,**
**Як весела жыць!**
**Як добра з заводам**
**І нівай дружыць!**

**У небе сталёвыя**
**Птушкі гудуць,**
**Грукочуць заводы**
**І домны растуць,**

**І полюс спявае,**
**І наша зямля,**
**Як май расцвітае**
**Пад сонцам Крэмля.**

**Хай песні калышуць**
**Сусветную шыр,**
**Няхай жыве Сталін—**
**Наш друг, правадыр!**



# ДЗЯКУЙ ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ

Уся краіна весела смяецца,
І так слаўна, радасна ўсім нам,
Бо шчасліва, радасна жывецца
Нашым слаўным дзецям, юнакам.

Хіба ёсць яшчэ краіна ў свеце,
Дзе-б не ведалі бяды і цьмы,
Дзе-б маглі так радавацца дзеці,
Як умеем радавацца мы.

Небывала радаснымі сталі
Адпачынку і вучобы час,
Бо наш родны і вялікі Сталін
Кожны дзень клапоціцца аб нас.

---

Аб шчасным дзяцінстве, што далі нам,
Вясёлая песня звіні.
Дзякуй вялікаму Сталіну
За нашы дзівосныя дні!

*Н. ДАБРАВОЛЬСКІ*







# Каўнерык

(Апавяданне піонера)

Я. ТАЙЦ
Мал. А. ШАХРАЯ

Мне трэба было ў школу, а ўсёй Маскве трэба было на Красную плошчу. Я доўга чакаў на рагу, а народ усё ішоў ды ішоў з песнямі, з музыкай, з лозунгамі, сцягамі. Ззялі трубы, грымелі барабаны, усюды— партрэты, сцягі, шары, гірлянды, мадэлі. Усе спявалі, смяяліся, скакалі, і ўсё вакол было чырвонае, чырвонае, чырвонае.

Я глядзеў на ўсе вочы. Непрыкметна прайшла гадзіна, другая. Я схамянуўся і паспрабаваў быў прайсці, але міліцыянер пагразіў мне белым пальцам:

— Куды?

— У школу, таварыш міліцыянер!

— Ой, лжэш! Сёння заняткаў няма!

— А ў нас ранішнік. Усе на дэманстрацыю, а для малодшых класаў ранішнік.

Тады міліцыянер узяў мяне за руку і сказаў:

— Прапусціце малодшы клас!

І правёў мяне цераз калону. І я прышоў у школу.

Там у вялікай зале таксама ўсё было прыгожа прыбрана, і мы танцавалі, гулялі ў жмуркі, у каравай і спявалі „Заводы, уставайце“, „Па далінах“ і іншыя песні. Потым раздавалі падарункі. А Ірка Земель з сваёю мамаю спазніліся, і ўсе ўбачылі, якая ў Земель мама—маленькая, худзенькая, сівенькая. Усе паглядзелі на Ірку і засмяяліся:

— Глядзіце, што яна на шыю пачапіла!

— Хіба такія носяць!

Ірка засаромілася і схавалася за мамінай спінаю. А яе мама сказала:

— Тут смяяцца няма чаго! Хочаце раскажу!

— Калі цікавае—раскажыце!

Рэбята прыціхлі, перасталі грызці пячэнне і размахваць сцяжкамі.

 Іркіна мама села на падаконнік і пачала апавядаць пра дзяўчынку Берту. Як ёй было трынаццаць год, і як у яе была сяброўка, крыху старэйшая, гадоў шаснаццаці, і Берта да яе часта хадзіла, а іншы раз аставалася ў яе і начаваць. Аднаго разу да сяброўкі прышлі рабочыя і сталі шаптацца: „Май-май“. А што—„май“, Берта толкам

не ведала. Яна прыстала да сяброўкі, тая не хацела гаварыць, але потым адкрылася:

— Заўтра Першае мая, і рабочыя нашага завода наладжваюць маёўку.

— Я таксама пайду на маёўку!—зарадавалася Берта.

— Ціха,—напалохалася сяброўка,—табе нельга, ты яшчэ малая.

— Я нікому не скажу,—зашаптала Берта,—я ўжо вялікая... я ведаю...

Яна ўгаварвала сяброўку, угаварвала, і тая, нарэшце, згадзілася.

— А што ты адзенеш на маёўку?

— А што трэба?

— Трэба што-небудзь чырвонае.

— А ў мяне нічога чырвонага няма.

— Прыходзь уночы, нібы начаваць.

І вось Берта прышла да яе ўночы. Пастукала ціхенька. Сяброўка доўга не ўпускала яе, пыталася—„хто?" Потым упусціла, шчыльна завесіла вокны, моцна заперла дзверы і дастала кавалак чырвонага шоўку.

— Вось,—сказала яна,—пашый сабе і мне каўнерыкі, а я буду шыць сцяг!

Так яны ўсю ноч сядзелі і шылі. Чуць дзе-небудзь скрыпне, яны хавалі шоўк і прыслухоўваліся. А калі стала відно, у іх ужо было ўсё гатова. Сяброўка ўсё прыбрала, каб ніхто нічога не заўважыў, і сказала:



— Ты свой каўнерык схавай, а пасля работы прыходзь на рэчку, дзе лес пачынаецца. Там будзе патруль, ты яму скажаш пароль, і ён пакажа табе, як далей прайсці.

— А які пароль?

Сяброўка нахілілася да Берты і прашаптала ў самае вуха:

— Ты яму: „Пагодка як разгулялася". А ён табе: „Але, дзянёк адменны", і пакажа дарогу.

Берта ішла па вуліцы і ўсё паўтарала сама сабе пароль. Раптам яна спынілася. Па вуліцы ехалі жандары. Яны хвасталі коней цяжкімі нагайкамі. Берце стала трохі страшна. Яны таксама рыхтаваліся да маёўкі. А што, калі яны яе схопяць і скажуць: „А ну, пакажы чырвоны каўнерык, а ну, які пароль у гарбарнікаў?.."

Берта хутчэй пабегла дамоў. А калі на заводзе прагудзеў гудок, яна выбралася з дому і пайшла да ракі. Там сядзеў рыбак з вудачкай. Берта здагадалася, што гэта патруль, і сказала:

— Пагодка як разгулялася!

Рыбак адказаў:

— Але, дзянёк адменны!—і паказаў, па якой сцежцы ісці.

Берта пайшла лесам. У траве яна ўбачыла ландышы, стала іх збіраць, згубіла сцежку і заблудзілася. Яна ўстала, не ведала, куды ісці і раптам наткнулася на чалавека. Яна зарадавалася.

— Пагодка як разгулялася!

Чалавек паглядзеў.

— Але, пагода нішто,—сказаў ён,—а ты што тут, дзяўчынка?

Берта не спужалася:

— Я... я... кветкі збіраю... ландышы ўжо цвітуць. Я збіраю!—Яна панюхала кветкі.—Пахнуць як!

— Ландышы?—Чалавек пагладзіў яе па галаве.—А ты не бачыла, дзяўчынка, рабочыя тут не праходзілі?

— Якія рабочыя?—здзівілася знарок Берта.—У лесе хіба бываюць рабочыя?

Яна хутчэй пайшла ад гэтага чалавека, доўга хадзіла па лесе, потым убачыла — на пяньку сядзіць яшчэ чалавек. Яна падышла і сказала ціха:

— Пагодка як разгулялася!

— Але,—адказаў той,—дзянёк адменны!—і паказаў Берце правільную дарогу. Дзяўчынка вышла да яру і там, у самым гушчары, знайшла маёўку.



На траве сядзелі і гарбарнікі, і шчацінщчыкі, і сяброўка з чырвоным каўнерыкам, і ва ўсіх было што-небудзь чырвонае—істужачка, павязка, бантік. Тады Берта дастала свой каўнерык, выпрастала і таксама адзела. Села на траву каля сяброўкі і стала слухаць, як шумяць дрэвы і як выступаюць аратары. Яны гаварылі пра Леніна, што ёсць такі Ленін, які стаіць за ўсіх рабочых, і пра фабрыкантаў, што не трэба на іх працаваць дванаццаць гадзін у суткі, а толькі восем, а некаторыя гаварылі, што трэба іх зусім далоў і цара далоў таксама. Потым ціха спявалі „Вы жэртваю палі" і „Інтэрнацыянал" і Берта падцягвала, як вялікая.

Раптам, калі ў трэці раз зацягнулі прыпеў: „Гэта будзе астатні і рашучы наш бой...", зверху прыбег патруль і закрычаў:

— Таварышы! Рассыпайцеся! Жандары!

Песня абарвалася. Усе сталі зрываць з сябе чырвонае, і хутка разыходзіліся ў розныя бакі. Сяброўка схавала сцяг пад кофтачку і пабегла. Берта таксама пабегла, але забылася зняць з сябе каўнерык. З-за дрэва выскачыў жандар, убачыў на Берце чырвонае і ўдарыў нагайкаю па чырвоным. І Берта ўпала.

Тут Іркіна маці перастала апавядаць. Яна зняла з галавы хустку, адкінула сівыя валасы і паказала на шыю:

— Нагайка трапіла вось па гэтым месцы!

Усе, выцягнуўшы галовы, паглядзелі.

Пад вухам сінела маленькая палоска, нібы шрам.

Стала ціха-ціха. Чуваць было, як здалёку, на вуліцы, іграе музыка. Хтосьці спытаў:

— А каўнерык?

— А каўнерык,—адказала Іркіна маці,—разарваўся ад удару, але я яго захавала. Трыццаць два гады хавала. Вось ён, на дачцы.

Усе паглядзелі на Ірку—вось у яе якая мама! Ірка горда паправіла на сабе каўнерык, абняла маму, усміхнулася і раптам крыкнула на ўвесь зал:

— Пагодка як разгулялася!

І ўсе хорам, як па камандзе, адказалі:

— Але дзянёк адменны!

І рэбята кінуліся да Іркі, разглядваць старэнькі каўнерык з палінялага чырвонага шоўку.



# Пра майго таварыша

*Вершы А. ЖАЎРУКА і А. УШАКОВА*

*Малюнкі А. ШАХРАЯ*

У мяне таварыш ёсць—
Слаўны госць,
Іспанскі госць.

Сталі мы з ім пабрацімы
У піонерскіх лагерах.
Пад гарачым сонцам Крыма
Мы хадзілі па гарах.

Нас кіш-мішам частавалі
З цеплахода маракі,
Нас з сабой у мора бралі
На шаландах рыбакі,
Мы пра лётчыкаў спявалі,
Мы футбольны мяч ганялі,
А яшчэ ў лапту гулялі,
А яшчэ—у гарадкі.

Я не знаў іспанскай мовы,
Але гутарку да слова
Друга Пэдро разумеў,
Бо таварыш мой умеў
Пра мяцежнікаў-піратаў
Маляваць малюнкі так,
Што сціскаліся на катаў
Пальцы самі у кулак.

Пад блакітным небасхілам,
Дзе высокіх пальмаў строй,
Ў чыстым горадзе Авіла
Жыў ён з братам і сястрой.

Цэлы дзень гулі гарматы,
Як у буру страшны гром,
І яго сястру і брата
Пахаваў сабою дом,
Зруйнаваны ўвесь дачыста
Бомбай лютага фашыста.

І з хвіліны страшнай той
Беспрытульным сіратой,
Ненакормлены, забыты,
Вандраваў мой друг адзін.
Жыў на вуліцах узрытых,
Ля пажарышч,
Ля руін.

Потым Пэдро людзі узялі
На вялікі параход.
Потым дзецям расказалі
Што далёка на усход
Павязуць іх морам сінім

У краіну СССР.
Самалётаў ў той краіне
Не злічыць, бадай, цяпер.

Толькі тыя самалёты
Не прыносяць дзецям шкоды,
А зусім наадварот:
Кожны гэткі самалёт
Сцеражэ заўжды дзяцей
Ад няпрошаных „гасцей".

Ўсім стае там хлеба, працы,
Сонца ззяе там заўжды.
Дзецям—школы і палацы,
Дзецям—лепшыя сады;
Дзецям—пляжы, цеплаходы,
Малако і бутэрброды,
І алоўкаў жмені ім,
Малявалі каб заводы,
Птушак, трактары, гароды,
Хату з комінам і дым.

Словам, дзеці добра сталі
Жыць у вольным краі тым—
Лепшы друг іх,
Родны Сталін,
Даў жыццё такое ім...

Дні за днямі праплывалі,
Курс трымалі на усход.
За кармой кіпелі хвалі,
Ўсё шпарчэй імчаў у далі
Акіянскі параход.

Ўсё далей ад хмар ад шэрых,
Ад пажарышч,
Ад гармат.
І нарэшце: бераг, бераг!
Камяніц вялізных шэраг!
Віва, горад Ленінград!

Наша слаўная краіна
Пэдро прыняла, як сына.
Мы ў адной палатцы спім,
Сны аднолькавыя снім.

Пад Авілай,
Пад Толедо
Мы вандруем на вайне,
І не раз пад бок суседа
Б'ем замест фашыста ў сне.

А сусед бурчыць:
— Задзіра,
Зневажаеш камандзіра—
Спі спакойна, не чапай—
Я—вядомы ўсім Чапай!



І пасля упартай схваткі,
Азірнуўшыся наўкруг,
Не акопы,
А палаткі
Заўважае раптам друг.



Ён гадамі жоўтароты—
Не бяруць на фронт малых,
Толькі зробіш з гэтым што ты—
Дваццаць год нам на дваіх.

Столькі-б год на аднаго—
Франко помніў бы яго:
Ўсе фашысцкія бандыты
Ім былі-б ушчэнт разбіты...

У Іспаніі, прызнацца,
Ува сне я толькі быў,
Але ўсім вялікім сэрцам
Гэты край я палюбіў.

І сябру мая радзіма
Стала блізкай, дарагой.
На усім на белым свеце
Не знайсці такой другой.

Мы спрабуем апельсіны
З сонечнай яго краіны,
Мы спрабуем кавуны
З нашай слаўнай стараны,
Мы спрабуем і знаходзім—
Вельмі смачныя яны!

А заўчора мой таварыш
Пра Іспанію чытаў,
А учора мой таварыш
Мне малюнак паказаў.
І пра ўсё,
Аб чым ён марыў,
Мне малюнак расказаў.

На малюнку тым адменным
Самалёт ляцеў ваенны,
Вёў яго насупраць ветру—
Я пазнаў—мой дружа Пэдро,
З ім былі яшчэ пілоты—
Ўсе яго таварышы.

Ад Севілы,
Ад Грэнады,
Ад Таледскай стараны,
Жыхарам усім на радасць
Гналі ворага яны.

Гналі ворага ліхога,
Скрозь да берага марскога,
А пасля усю брыду
Заганялі у ваду.

І тады яго краіну
Заліла святлом зара,
І ў адзіную хвіліну
На малюнку у сябра
Кветкі пышна расцвілі,
Дрэвы шпарка ў рост пайшлі,
Як жывыя, апельсіны,
Залатыя мандарыны
У садах яго краіны
Па буханцы параслі.
Вось аб чым таварыш мой
Марыць ночнаю парой.

Кажа ён:—А скончым войны—
Будзе край—адна сям'я,
Зажыве, як ваша, вольнай
Ўся іспанская зямля.

Я таксама стаць пілотам
Сам хачу
 і, як пілот,
Аб далёкіх пералётах
Мару я каторы год:

Пад пургою,
Між туманаў
Прамільгнуць як Вадап'янаў,
На совецкім караблі
Абляцець вакол зямлі,
Прашумець над снежным полем,
Над лядзянаю вадой...

А калі Паўночны полюс
Замільгае пада мной—
На Папанінскую льдзіну
Шакаладу тону скіну,
Пук журналаў і газет
І ад школьнікаў—прывет.

Мы сухім трымаем порах,
Як загадвае нарком,
А калі спрабуе вораг
Падыйсці да нас цішком—
Ўсе узнімуцца народы
Гнаць бандытаў ад граніц.
Ў гэты час і мы, пілоты,
Кінем ў неба самалёты
Край свой родны бараніць.

А пакуль мы не пілоты—
Мы усё-ж не трацім час,
І мадэлі самалётаў
Самі лётаюць у нас.
Форму з дошчачак складаем,
Крыллі,
 хвост
 і фюзеляж.

Вінт на месцы. Правяраем—
Карабель гатовы наш!

І, пружынку да адказу
Накруціўшы, ўпяршыню,
Мы пускаем—
 і адразу
Набірае вышыню
Наша дзіўная машына,
І нясе яе пружына
І над стрэхамі дамоў,
І над лісцямі садоў,
І над дзікаю шыпшынай,
І над сходкаю птушынай,
Між кізілавых кустоў
Разганяе вераб'ёў.

Цёці дзівяцца з дзетсада:
—Ай ды дзіўная прылада!..
Два прапелеры шумяць,
Крыллі лёгкія блішчаць.
Толькі лётчыкам дасада—
На зямлі яны стаяць...

Так у радасці сумеснай
Дні праходзяць чарадой.
Нашай дружбы шчырай, цеснай
Не разліць цяпер вадой.

Мы трымаемся за рукі,
Ўдоўж па лагеру ідзём,
Перад блізкаю разлукай
Песню звонкую пяём:

„Наш Артэк, наш Артэк,
Не забудзем цябе век".



# ЮНЫ ГРАНАТАМЁТЧЫК

*Е. КАНАНЕНКА*

Хлопчыкі і дзяўчаткі Мадрыда і іншых гарадоў Іспаніі прыходзяць у ваенныя штабы рэспубліканцаў.

— Вазьміце нас з сабою на фронт,—просяцца яны.—Мы будзем вам памагаць.

Дзяцей не бяруць, іх шкадуюць. Але ўсё-такі многім рэбятам удаецца папасці на фронт, асабліва тым, у каго забіты бацькі.

Хлопчык Торэс папаў у атрад гранатамётчыкаў, якім камандаваў маёр Рамон Дзіэстро.

Рамон Дзіэстро апавядае. што Торэс быў смелым і спрытным. і хутка так добра навучыўся мятаць гранаты, што ўсе байцы атрада хвалілі яго.

Аднойчы маёр Рамон Дзіэстро атрымаў загад узяць невялікі гарадок Торэхон.

Калі гранатамётчыкі ўступілі ў горад. у атрадзе асталося вельмі мала байцоў—шмат загінула ў баю.

У горадзе стаяла высокая вежа. На гэтай вежы схаваліся фашысцкія кулямётчыкі і адтуль стралялі ў рэспубліканцаў. Што рабіць? Трэба было канешне знішчыць кулямётнае гняздо ворагаў.

Камандзір парашыў: няхай чатыры добраахвотнікі непрыкметна прабяруцца на вежу і кінуць гранаты.

Камандзір сабраў атрад і запытаў:

— Байцы! Хто з вас возьмецца гэта зрабіць? Патрэбны самыя смелыя, самыя рашучыя людзі. Справа вельмі небяспечная. Той, хто пойдзе на вежу, можа загінуць.

— Пашліце мяне, камандзір!

— Мяне!

— Мяне!

— Не, мяне!

Кожны быў гатовы аддаць сваё жыццё за агульную справу.

Хлопчык Торэс першы закрычаў:

— Мяне пашліце, камандзір!

— Байцы,—сказаў камандзір,—патрэбны толькі чатыры чалавекі. Каго-ж пасланць? Няхай пойдзе той, хто першы заявіў аб гэтым.

Першымі былі: маленькі Торэс, студэнт Архілес, каваль Томас і селянін Гардзільо.

— Торэс, цябе прыдзецца замяніць кім-небудзь, ты яшчэ вельмі малы.

Але хлопчык стаў так настойліва ўпрашваць камандзіра, што той згадзіўся.

— Клянуся вам, што я не спалохаюся,—гаварыў Торэс.—Апрача таго, я ўмею добра лазіць—мяне яны не заўважаць.

Нямецкія і італьянскія фашысты, якія заселі з кулямётамі на вежы, нічога не ведалі. Чатыры бясстрашных рэспубліканцы паўзком прабіраліся на вежу.

Торэс, стараючыся не дыхаць, спрытна ўскарабкаўся на вежу, трымаючы напагатове звязак гранат. За ім паўзлі Архілес, Томас і Гардзільо.

Атрад рэспубліканцаў прыціх... Атрад замёр у чаканні. Кожная секунда здавалася годам. Раптам раздаўся аглушальны выбух, і сцяна вежы рухнула. Крык радасці вырваўся ў байцоў.

Але дзе-ж чатыры таварышы? Удалося ім выратавацца, ці яны загінулі разам з фашыстамі?

Неўзабаве гранатамётчыкі ўбачылі бледных і акрываўленых Томаса і Гардзільо. Яны асцярожна неслі на руках маленькага Торэса.

Байцы, хвалюючыся, кінуліся насустрач.

— Торэс... Забіты?!—закрычалі яны.

— Ён паранены і страціў прытомнасць.

— Дзе Архілес?

— Архілес загінуў.

Хлопчыка апусцілі на зямлю. Ён хутка ачнуўся.

— Камандзір,—прашаптаў ён, слаба ўсміхаючыся,—камандзір, цяпер яны страляць не будуць...

Паранены хлопчык Торэс хутка вылечыўся.

**(З кніжкі „Маленькія іспанцы“).**

# МОЙ ДЗЕНЬ У АНГЛІЙСКАЙ ШКОЛЕ

**Гэта пісьмо атрымана з Лондана ад адной совецкай дзяўчынкі. Бацькі яе працуюць там у паўпрэдстве СССР, і ёй прыходзіцца вучыцца ў адной з Лонданскіх школ, якую яна і апісвае тут.**

Школа наша—непрыветлівая, з поўцёмнымі заламі і рашотчатымі вокнамі. Перад урокамі—малітва.

Сёння першы ўрок—літаратура. Настаўнік па літаратуры лысы, стары і злы.

— Сёння мы будзем пісаць сачыненне на тэму, хто кім хоча быць. Маргарэт,—пытаецца настаўнік,—кім ты хочаш быць?

— Я—машыністкай.

— Чаму?

— Таму, што лягчэй дастаць работу,—адказвае Маргарэт.

— Філіс, а ты?

— Я буду працаваць у бацькавай цырульні.

— Ну, а ты, Джэсі?

— Краўчыхай, сэр.

— А ты?—пытае ён мяне.

— Інжынерам.

Увесь клас раптам аглянуўся на мяне. Хлопчыкі засмяяліся.

— Інжынерам?!

Настаўнік таксама перапытаў здзіўлена:

— Інжынерам?

— Але, містэр. Я буду інжынерам-будаўнікам. У нас, у СССР, кожны можа стаць, кім ён хоча.

— Хопіць, сядай,—перапыняе мяне настаўнік.

Праз некалькі хвілін мы пачынаем пісаць. Настаўнік заглядвае цераз плячо.

— Гільберт, нягодны, за поўгадзіны ты напісаў толькі дзве старонкі!

Бедны Гільберт! Маці яго працуе падзёншчыцай, мые падлогі. Трэба дапамагаць сям'і, і кожны дзень Гільберт устае ў 6 гадзін раніцы і бярэцца за разноску газет. Ён вечна хоча спаць.

— Ох, як ён пазяхае!—крычыць настаўнік.—Гультай!

Ён бярэ лінейку-лапу, размахваецца і — раз, раз—б'е па ладонях хлопчыка.

Так у нас бывае на шмат якіх уроках.

**М. Д.**

# КАЛАТУШКА

*НАНАЙСКАЯ КАЗКА* [1]

Блізка, ці далёка—не ведаю дзе—жыў адзін стары.

У старога ўсяго багацця было—сіта лубяное, плеценае, коўшык сярэбраны і калатушка драўляная. Болей нічога не было.

Так ён і жыў.

І вось пачуў ён аднаго разу, што ў суседнім стойбішчы багаты шаман [2]) памінкі спраўляе.

Пайшоў стары на памінкі і ўзяў з сабою сіта.

А сіта было не простае. Хоць пяску ў яго накладзі, хоць снегу,—толькі патрасеш, з сіта ўсякая яда пасыплецца.

Вось прышоў стары да шамана, сіта на вешалах пакінуў, а сам зайшоў у хату.

Слугі шаманавы сталі частаваць старога чырвонаю гарэлкаю. Сядзіць стары і п'е.

А пакуль ён у хаце сядзеў ды гарэлку піў, шаман вышаў на двор і бачыць: на вешалах сіта плеценае вісіць.

Узяў шаман сіта і давай трэсці. А з сіта раптам булкі ды аладкі пасыпаліся.

„Вось,—думае шаман,—якое сіта добрае"



Узяў ён сіта і схаваў яго.

А стары дадому сабраўся. Падыходзіць ён да вешалаў, глядзіць—няма сіта. Шукаў, шукаў,—нідзе няма. Узлаваўся стары, а рабіць няма чаго. Пайшоў дадому без сіта.

На другі дзень зноў паклікалі старога да шамана. На гэты раз узяў ён з сабою коўшык сярэбраны.

А коўшык старога таксама не просты быў. Толькі нахіліш яго, зараз з яго віно пацячэ.

Прышоў стары да шамана, коўшык на вешалах пакінуў, а сам у хату зайшоў.

Сядзіць у хаце, чырвоную гарэлку п'е. А пакуль ён піў гарэлку, шаман на двор вышаў, бачыць—на вешалах коўшык сярэбраны вісіць Узяў ён коўшык, нахіліў—палілося з коўшыка віно. Колькі ні лье, колькі ні п'е,—усё віну канца няма.

Думае шаман: „Прыдзецца і коўшык украсці.

І ўкраў.

Вышаў стары, глядзіць, а коўшыка няма.

Пашукаў, пашукаў, ды і пайшоў дамоў.

На трэці дзень стаў стары зноў да шамана збірацца. Пайшоў у сваю клець, бачыць—апрача калатушкі нічога не асталося.

А калотушка ў яго хоць і драўляная была, а таксама не простая.

Узяў ён калатушку, за спіну закінуў і ў дарогу выправіўся.

Зноў зайшоў да шамана ў хату, а калатушку на вешалах пакінуў.

Толькі ён з гасцямі сеў, чырвоную гарэлку піць пачаў, раптам чуюць госці—на дварэ стук-крык-шум.

Выбеглі ўсе з хаты, глядзяць—калатушка шамана таўчэ.

[1]) Нанайцы жывуць на Далёкім Усходзе. Раней іх называлі гольдамі. Нанайцаў у СССР налічваецца 6.500 чалавек.

[2]) Шаман—калдун, знахар.



Шаман крычыць:

— Ой, не забівай!

А калатушка ў яго па спіне так і скача — таўчэ злодзея.

Зноў крычыць шаман:

— Ой, не забівай! Аддам сіта!..

— Не,—кажа стары,—у мяне яшчэ і коўшык быў!

Пабег шаман да сябе ў хату, прынёс сіта і коўшык,—аддаў старому.

Тут стары сказаў сваёй калатушцы:

— Хопіць ужо, перастань злодзея таўчы. Будзе з яго.

Забраў ён сваё сіта плеценае, ды коўшык сярэбраны, ды калатушку драўляную і пайшоў сабе дамоў.

Стаў ён з таго часу дома жыць і да шаманоў болей не хадзіў.

Так і жыў стары. Блізка, ці далёка—не ведаю.

# НЕ ЛЮБА—НЕ СЛУХАЙ

*РУСКАЯ КАЗКА*

Ехаў пан на тройцы і сустрэў па дарозе мужыка. Мужык на худым коніку едзе, а сам пернікі ў мёд макае ды ў рот пхае. Убачыў гэта пан, здзівіўся і кажа:



— Што ты, мужычок, так раскошна ясі? Я пан і то не дазволю сабе есці мядовыя пернікі з мёдам. Мусіць ты многа зарабляеш?

А мужык і кажа:

— Гэта вы праўду кажаце! Я калі захачу—зараз сто рублёў зараблю. Вось і з вас магу ўзяць.

— А ну, ухітрыся!

— Давай, пан, угавор зробім: калі ты мне скажаш: „Лжэш!"—з цябе дзвесце рублёў, а калі стрымаешся—рабі са мною, што ведаеш.

Пан кажа:

— Пачынай, лжы.

Мужычок і пачаў:

— Быў я ў бацькі з маткаю малы-малюсенькі; пайшоў у лес—бачу, у дупле смажаныя перапяляты гняздо звілі. Сунуў я ў дупло руку—не лезе, сунуў нагу—не лезе, я сунуўся ды скок і ўскочыў туды ўвесь. Наеўся ўволю, захацеў вылезці; але-ж не тут яно было: вельмі тоўсты ад яды зрабіўся, а дзірка малая. Я, добры малоец, здагадаўся збегаў дамоў па сякеру, прасек дзірку і вылез.

(Пан кажа: „Лжы, брат, можа і праўда").

— Уздумалася мне тады напіцца. Прышоў я да мора, зняў з галавы чэрап, зачэрпаў вады і напіўся. Усё-б добра, ды выпусціў з рук чэрап у ваду. Гляжу—а ён сярод мора плавае, качкі-гусі ў ім гнёзды парабілі ды яек нанеслі.

Што рабіць? Раз сякераю кінуў—не дакінуў, у другі раз кінуў — перакінуў, у трэці раз зусім не папаў. Вось гэтак усіх гусей-качак пабіў; яйцы самі паляцелі. Пасля таго зайшоў я на другі канец мора, узяў ды і запаліў ваду, вада ўся выгарала, — я дастаў



свой чэрап і пайшоў па белу свету гуляць.

(„Лжы, лжы, можа, і праўда".)

Гуляў-гуляў, а дома ўсе дровы вышлі. Паехаў у лес. Пакуль там-сям бадзяўся ды дровы сек, шэрыя ваўкі набеглі, бруха майму коніку парвалі. Я здагадлівы быў: высек бярозавы дубец і зашыў бруха майму коніку. Потым наклаў цэлы воз дроў і стаў у дарогу збірацца. Пагнаў каня, а ён ні з месца! Што за дзіва? Гляджу, а бярозавы дубец вырас высока-высока, за хмары верхавінкаю чапляецца. Вось я палез на неба. Усё там выгледзеў, усё разведаў. Пара і назад спускацца. На маю бяду, конік з месца крануўся і зваліў бярозу. Што рабіць, чым бядзе дапамагчы? Набраў я на небе пылу-копаці, звіў вяроўку, прывязаў яе за хмару і давай спускацца



ўніз. Спускаўся-спускаўся пакуль вяроўка не скончылася. Што-ж я прыдумаў? Зверху адрэжу ды да нізу прытачу, а сам ўсё ўніз спускаюся. Дайшло да таго, што рэзаць няма чаго, а да зямлі яшчэ далёка!

(„Лжы, мужычок, лжы, можа і праўда!")

А тут, як на грэх, навальніца ўзнялася і пачало мяне цягаць—і ў Казань, і ў Разань, і ў Астрахань... Упаў я ў пекла, на самае дно. І там вашага бацьку сустрэў. На ім чэрці гной вазілі.

Пан як закрыць:

— Лжэш, мужык! Па першае, ён дваранін, а па-другое, ён яшчэ жыў!

— Вось,—кажа мужык,— цяпер калі ласка мне па ўгавору дзвесце рублёў. З гэтага я жыву і мядовыя пернікі з мёдам ем.

Тут і казка ўся.

# І Ш А К - С П Я В А К

*УЗБЕКСКАЯ КАЗКА*

Калісьці, даўно, жыў адзін спявак, які праславіўся сваім голасам на ўсё царства. Але гэты спявак быў вельмі непрыгожы і ніколі не паказваўся слухачам. У час спеваў ён хаваўся ў садзе або сядзеў за заслонаю. Нарэшце слава аб яго мастацтве дайшла да самога цара. Спевака паклікалі ў палац, каб цар і яго блізкія маглі пацешыцца яго спевамі.

У вызначаны дзень спявак асядлаў ішака і выправіўся ў дарогу. Па дарозе ішака ўкусіла ядавітая муха. Ішак ашалеў ад болі, скінуў седака і ўцёк.

Ён доўга імчаўся, не разбіраючы дарогі і прыбег проста ў царскі сад. Боль ад укуса ўжо прайшла, і ішак, знайшоўшы ў садзе шмат смачных калючак, стаў крычаць ад задаволенасці. Між тым цар і яго блізкія ў чаканні спевака паселі на тэрасе. Пачуўшы рэў ішака, яны парашылі, што гэта спявае ў садзе спявак.

— Які магутны голас, як прыемна слухаць!—казалі яны.—Такога спевака можна пачуць з суседняй вёскі.

І яны кідалі ў сад вееры, каб паказаць, як ім падабаюцца спевы.

А сапраўдны спявак тым часам падышоў пехатою да варот палаца. Варта затрымала яго і спытала, хто ён і што яму трэба. Спявак назваў сваё імя, але ніхто яму не паверыў, бо ўсе думалі, што спявак ужо даўно спявае ў садзе. Вартаўнікі падумалі, што ён злодзей, і павялі яго ў суд.



У судзе спявак узлаваўся; ён расказаў, што ў царскі сад забраўся яго ішак і крычыць там, а цар і яго блізкія думаюць, што гэта спявак. Тады паслалі па галоўнага суддзю, які таксама быў у палацы. Галоўны суддзя прышоў і загадаў спеваку што-небудзь праспяваць, каб даведацца, ці праўда, што ён той выдатны спявак. І спявак заспяваў так добра як ніколі яшчэ не спяваў.

Але суддзя выслухаў яго і сказаў:

— Ты падманшчык! Я толькі што быў у палацы і чуў сапраўднага спевака: ён спявае куды лепш і гучней за цябе. А цябе трэба судзіць за падман і як след пакараць.

— Добра,—сказаў спявак,—але калі спевы майго ішака табе падабаюцца больш чым мае,—твой ішак больш варты быць маім суддзёй чым ты.

# ЛЕЎ І ЧАЛАВЕК

*УКРАІНСКАЯ КАЗКА*

Аднойчы падышоў леў да рэчкі ды і глядзіць у ваду. А шчупак плёхнуў хвастом і—шусь на дно, а потым выплыў ды кажа:

— Я думаў, што чалавек, ды і спужаўся, аж гэта леў.

— Хіба чалавек страшнейшы за мяне? Усе мяне баяцца, а чалавека я яшчэ не бачыў, што гэта за звер. Дзе-б яго паглядзець?

— Вось так ідзі ды ідзі полем, дык і ўбачыш.

Пайшоў леў. Сустракае хлопчыка.

— Ці ты чалавек?

— Не, яшчэ не чалавек, буду калі-небудзь чалавекам.

— Ну, мне цябе не трэба.

Ідзе ды ідзе далей, сустракае дзеда і пытае:

— Ці ты чалавек?

— Не, не чалавек быў некалі чалавекам, а цяпер ужо дзед.



— Не, і цябе мне не трэба.

Пайшоў леў далей. Сустракае казака,—едзе на кані верхам, на вайну сабраўся. Леў і пытае:

— Ці ты чалавек?

— Чалавек,—кажа казак.

— Ну, то я цябе з'ем.

Казак выхапіў пісталет, ды—бах яго між вачэй,—чуць леў не ўпаў. Стаў леў ды дзівіцца, а казак сабе паглядзеў на яго і паехаў сваёю дарогай.

Пайшоў тады леў да рэчкі. Выплыў да яго шчупак і пытаецца:

— А што, бачыў чалавека?

— Бачыў, — кажа леў.

— Што ён табе казаў?

— Нічога, толькі плюнуў між вачэй так, што я насілу, насілу іх расплюшчыў, ды і паехаў сабе.



# ЗАБАЎНАЯ ГІСТОРЫЯ

М. ЗОШЧАНКА

Пеця быў не такі ўжо маленькі хлопчык. Яму было чатыры гады.

Але мама лічыла, што ён зусім малюсенькае дзіця. Яна карміла яго з лыжачкі, гуляць вадзіла за ручку і раніцай сама адзявала яго.

Вось аднаго разу Пеця прачнуўся ў сваёй пасцельцы, і мама стала яго адзяваць.

Вось яна адзела яго і паставіла на ножкі каля ложка. Але Пеця раптам упаў.

Мама думала, што ён дурэе, і зноў паставіла яго на ножкі. Але ён зноў паваліўся.

Мама здзівілася і ў трэці раз паставіла яго каля ложка. Але хлопчык зноў паваліўся.

Мама спалохалася і па тэлефону пазваніла бацьку на службу. Яна сказала бацьку:

— Прыязджай хутчэй дадому. Нешта з нашым хлопчыкам здарылася—ён на ножках стаяць не можа.

Вось бацька прыязджае і кажа:

— Гэта глупства. Наш хлопчык добра ходзіць і бегае, і не можа быць, каб ён у нас падаў.

І ён у момант ставіць хлопчыка на падлогу. Хлопчык хацеў пайсці да сваіх цацак, але зноў у чацверты раз паваліўся.

Бацька кажа:

— Трэба хутчэй паклікаць доктара. Напэўна, наш хлопчык захварэў. Напэўна, ён учора цукеркамі аб'еўся.

Паклікалі доктара.

Прыходзіць доктар у акулярах і з трубкай.

Доктар кажа да Пеці:

— Што гэта за навіна! Чаму ты падаеш?

Пеця кажа:

— Не ведаю чаму, але трошкі падаю.

Доктар кажа маме:

— А ну, раздзеньце гэтага хлопчыка, я яго зараз пагляджу.

Вось мама раздзела Пецю і доктар пачаў яго выслухваць.

Вось доктар выслухаў яго праз трубку і кажа:

— Хлопчык зусім здаровы. І гэта дзіўна, чаму ён у вас падае. А ну, адзеньце яго зноў і пастаўце яго на ножкі.

Вось мама хутка адзяе хлопчыка і ставіць яго на падлогу.

І доктар адзяе акуляры на нос, каб лепш бачыць, як хлопчык падае.

Толькі хлопчыка паставілі на ножкі, і раптам ён зноў паваліўся.

Доктар здзівіўся і кажа:

— Паклічце прафесара. Магчыма, прафесар здагадаецца, чаму гэты хлопчык падае.

Вось бацька пайшоў званіць прафесару, а ў гэты час да Пеці ў госці прыходзіць маленькі хлопчык Коля.

Коля зірнуў на Пецю, засмяяўся і кажа:

— А я ведаю, чаму ў вас Пеця падае.

Доктар кажа:

— Бачыце, які знайшоўся вучоны карапуз—ён лепш за мяне ведае, чаму дзеці падаюць.

Коля кажа:

— Паглядзіце, як Пеця ў вас адзеты.





У яго адна штанінка матаецца. А ў другую засунуты абедзве нагі. Вось чаму ён падае.

Тут усе заахкалі і завохкалі.

Пеця кажа:

— Гэта мяне мама адзявала.

Доктар кажа:

— Не трэба клікаць прафесара. Цяпер нам зразумела, чаму хлопчык падае.

Мама кажа:

— Раніцай я вельмі спяшалася, каб яму кашу зварыць, а зараз я вельмі хвалявалася, і таму я так няправільна яму штонікі адзела.

Коля кажа:

— А я заўсёды сам адзяюся, і ў мяне такіх глупстваў з нагамі не бывае. Дарослыя заўсёды што-небудзь наблытаюць.

Пеця кажа:

— Цяпер я таксама буду сам адзявацца.

Тут усе засмяяліся. І доктар засмяяўся. Ён з усімі развітаўся і з Колям таксама развітаўся. І пайшоў па сваіх справах.

Бацька пайшоў на службу. Маці пайшла на кухню.

А Коля з Пецям асталіся ў пакоі. І пачалі гуляць у цацкі.

А на другі дзень Пеця сам адзеў свае штонікі і ўсё абышлося добра.



М. ПРЫШВІН

# ВОЖЫКАВЫЯ РУКАВІЦЫ

Сабака, усёроўна як лісіца і кот, падкрадваецца да здабычы. І раптам замрэ. Гэта ў паляўнічых называецца стойкай.

Сабака толькі стаіць і паказвае, а чалавек пры ўзлёце страляе. Калі-ж сабака пры ўзлёце бяжыць—гэта не паляванне. За адной пабяжыць—другую спужае, трэцюю ды яшчэ і з брэхам кінецца па балоце турыць,—паляўнічаму так нічога і не астанецца.

Вучыў я Ромку, каб не ганяць, і не мог навучыць.

— Некультурны!— сказаў мне аднойчы егер Кірсан.

— Як-жа быць з некультурнасцю?—запытаўся я.

Кірсан вельмі дзіўна адказаў:

— Некультурнасць у сабак трэба вожыкам выганяць.

Знайшлі мы вожыка. Я пусціў Ромку ў цецяручыныя мясціны, і хутка ён стаў па цяцёрцы. Я ззаду Ромкі стаў, а Кірсан з вожыкам збоку. Загадваю:

— Наперад!

Ромка з лапкі на лапку; раз, два, тры... Ту-ту-ту!—вылецела!

— Назад!—крычу Ромку.

Нічога не памятае, нічога не чуе. Кінуўся. І тут вось Кірсан на-ляту збоку проста ў нос яму вожыка. Ромка апамятаўся, скавытнуў і—на вожыка. А вожык яму сваімі калючкамі яшчэ здорава паддаў. І мы на Ромку і прыгаварваем:





— Памятай вожыка, памятай вожыка!

З таго часу, калі птушка ўзлятае, я кажу паціху:

— Ромка, памятай вожыка!

Ён і апамятаецца.

Аднойчы я запытаўся ў Кірсана:

— Як гэта вы, Кірсан Мікалаевіч, прышлі да такой дагадкі, каб некультурнасць вожыкам выганяць?

— З сябе самога пераваў, Міхайла Міхайлавіч,—адказаў Кірсан.—У дзіцячыя гады суседзям вокны біў з рагаткі. Раз злавілі мяне і кажуць: „Гэтага хлапчука трэба ўзяць у вожыкавыя рукавіцы“. І ўзялі. А потым гэта з сябе я на сабак пераваў з вялікай карысцю.

# ЖУРКА

Раз было ў нас—злавілі мы маладога жураўля і далі яму лягушку. Ён яе праглынуў. Далі другую—праглынуў. Трэцюю, чацвертую, пятую, а болей тады лягушак у нас пад рукой не было.

— Разумнік,—сказала мая жонка і запытала ў мяне:—А колькі ён можа з'есці іх? Дзесяць можа?

— Дзесяць,—кажу,—можа.

— А калі дваццаць?

— Дваццаць,—кажу,—наўрад...

Падрэзалі мы гэтаму жураўлю крыллі, і

стаў ён за жонкаю ўсюды хадзіць. Яна карову даіць—і Журку там трэба, і таксама на палявыя, калгасныя работы ходзіць з ёю і па ваду. Прывыкла да яго жонка, як да свайго дзіцяці, і без яго ёй ужо сумна, без яго нікуды. Але толькі калі часам здарыцца—няма яго, крыкне толькі адно: „фру-фру", і ён да яе бяжыць. Такі разумнік!

Так жыве ў нас журавель, а падрэзаныя крыллі яго ўсё растуць і растуць.

Раз пайшла жонка па ваду ўніз, да балота, і Журка за ёю. Лягушанё невялічкае сядзела каля студні і скок ад Журкі ў балота. Журка за ім, а вада глыбокая і з берагу да лягушаняці не дацягнешся. Мах-мах крылламі Журка і раптам паляцеў. Жонка ахнула і за ім. Мах-мах рукамі, а ўзняцца не можа. І ў слёзы, і к нам: „Ах, ах, бяда якая! Ах, ах!" Мы ўсе прыбеглі да студні. Бачым—Журка далёка, на сярэдзіне нашага балота сядзіць.

— Фру-фру!—крычу я.

І ўсе рэбята за мною таксама крычаць.

— Фру-фру!

І такі разумнік! Як толькі пачуў ён гэтае наша „фру-фру", зараз-жа мах-мах крылламі і пpыляцеў. Тут ужо жонка сябе не памятае ад радасці, загадвае дзецям бегчы хутчэй па лягушак. У гэты год лягушак было мноства, рэбята хутка набралі дзве шапкі. Прынеслі рэбята лягушак, пачалі даваць і лічыць. Далі пяць—праглынуў, далі дзесяць—праглынуў, далі дваццаць і трыццаць, ды так вось і праглынуў за адзін раз сорак тры лягушкі.



# РАНІЦАЙ

*Верш дзяткора Э. ГАЛУШКОВА*

**Травы пакрыты расою,**
**Раннія спевы чуваць.**
**К возеру гэтай парою**
**Гусі ляцяць жыраваць.**

**Сівы туман над балотам**
**Сонца спакойна чакаў.**
**Ястраб кружыў над чаротам—**
**Там ён здабычы шукаў.**

**Дуб над шырокай ракою**
**Цень адкідаў у ваду.**
**Тут-жа рыбак з барадою**
**Вуду закінуў сваю.**

**Лес прачынаецца, дрэвы**
**Ціха пад ветрам шумяць.**
**Раніцы летняе спевы**
**Сэрца маё весяляць.**



# ЗАБАСТОЎКА СЛАНОЎ

Гэта было ў Індыі ў г. Бамбее.

Бамбей—вялікі порт. Сюды прыбываюць штодня дзесяткі параходаў. Тысячы грузчыкаў працуюць у парту. Але апрача людзей гаспадары з даўных часоў скарыстоўваюць на гэтай рабоце і сланоў. Сланы самыя выгадныя для гаспадароў чацвераногія грузчыкі. Яны—не людзі. З імі—спакайней. Ім не трэба ніякай платы. Яны не бунтуюць, не паўстаюць супроць сваіх прыгнятальнікаў. Слон бярэ хобатам вялікі груз, асцярожна ўзносіць яго па трапу на параход і скідае ў трум. Нават палавіны гэтага груза чалавек не зрушыць з месца.

Адзін пан, на прозвішчу Махбі, меў 10 сланоў. Яго сланы—грузчыкі былі вядомы ўсяму гораду. Сланы грузілі і выгружалі параходы. Пан Махбі меў ад гэтага вялікія прыбыткі. Усё ішло добра. Адно толькі непакоіла гаспадара—сланы шмат елі.

Ураджай у той год быў няўдалы, цэны на корм падняліся. А слон з'ядае за дзень каля 5 пудоў корму. Пан Махбі парашыў на першы час зменшыць порцыі сваім грузчыкам роўна на палавіну.

Назаўтра сланы адправіліся на работу, як звычайна; відаць, яны палічылі, што корм на снеданне ім зменшылі выпадкова. Але на другі дзень паўтарылася тое-ж самае. Тады здарылася нешта зусім нечаканае—сланы проста не вышлі на работу. Яны ціха стаялі ў стойлах і хлопалі вушамі. Гаспадар пачаў быў крычаць на іх. Але тут-жа па касым позірку маленькіх вачэй важака ён зразумеў, што яму лепш не чапаць сланоў. Ён вышаў.

Раззлаваныя сланы маглі растрыбушыць і яго і ўвесь яго дом. Махбі паняволі парашыў пачакаць. Сланы таксама чакалі. Пачалася сапраўдная забастоўка.

А тым часам заказчыкі пана Махбі чакаць не хацелі. Яны заявілі, штоноймуць людзей і больш падрадаў Махбі не дадуць.

Тады Махбі здаўся. Нехаця ён выдаў сланам поўную норму корму. „Але,—думаў ён пры гэтым,—можа яны ўжо адвыклі ад работы і не пойдуць у порт? А можа ў іх была другая прычына для гультайства?

Аднак на другі дзень сланы моўчкі падняліся ў свой час і адправіліся ў порт на работу.

Забастоўку яны выйгралі.



# КІМ МЫ БУДЗЕМ

## МОЙ ДЗЕНЬ

У нашым класе я адна з лепшых вучаніц. Мае адзнакі добрыя і выдатныя.

Я свой дзень праводжу так: пасля школы іду на вуліцу гуляць з таварышкамі на гадзіну або дзве. Потым іду вучыць урокі. Спачатку пісьмовыя зраблю, а пасля вусныя. Потым я чытаю кніжкі з нашай бібліятэкі.

У 9 гадзін вечара я заўсёды кладуся спаць.

Калі я скончу сярэднюю школу, пайду вучыцца на дзіцячага доктара, бо гэта работа мне вельмі падабаецца.

Буйко Ніна

Віцебск, 6-я школа, III клас.

## БУДУ НАСТАЎНІЦАЙ

Я вельмі люблю чытаць кніжкі пра дзяцінства нашых правадыроў, пра жыццё рабочых у дарэвалюцыйны час і цікавыя казкі.

Калі я вырасту вялікай, буду настаўніцай. Мне падабаецца работа ў школе з дзецьмі.

Юля Туралева

Віцебск, 6-я школа, III клас.

## ВУЧУСЯ ДОБРА

Я вучуся добра, і заўсёды буду вучыцца так, як завяшчаў дзядуля Ленін.

У мяне хапае часу на ўсё: і ўрокі зрабіць, і пагуляць і яшчэ схадзіць у дом мастацкага выхавання дзяцей. Там я займаюся ў балетным гуртку.

Калі вырасту, я абавязкова буду артысткай.

Івашкова Галя

Віцебск, 6-я школа, III клас.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ.
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ
І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

КРАСАВІК 1938 г. № 4

926

ЦАНА 30 кап.

# ПРЫГОДЫ МАКА



(ПРАЦЯГ)



9. Памагай, Жучок, пажар тушыць!



10. Зноў памылка! За плотам сям'я варыла абед...



11. Прыдзецца вярнуцца к дзецям.



12. Будзем няньчыць малых.



13. Шалёны сабака!



14. Ды мы яго мігам супакоім!



15. Ну і маладзец, Мак! Герой!

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ.

Друкарня імя Сталіна, Менск. | 20.000 экз. | Зак. № 3338. | Уп. Галоўліта 4281